

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# наша СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года
№ 46 (633) 10 СНЕЖНЯ 2003 г.

## ПОМНІК ПАКУТНІЦЫ ЗА БЕЛАРУСЬ



Скончыліся-такі больш як дзесяцігадовыя блуканні па пакутах грамадзян, нясабыякавых да творчасці і жыццёвага шляху Ларысы Геніюш. Дзякуючы менскаму культурна-асветніцкаму клубу "Спадчына", уласнай самаахвярнасці яго старшыні Аатоля Белага паўстаў на радзіме славутай паэткі помнік.

Няглядзячы на адмоўную рэакцыю нашчадкаў мінулай ідэалогіі і рэжыму, праваслаўная царква дала дазвол устанавіць помнік Ларысе Геніюш на прылеглай тэрыторыі Траецкага храма ў Зэльве, а гэта амаль насупраць яе дома, дзе яна дажывала апошнія свае гадочкі. Для яе гэты храм быў апошнім беларускім апірышчам:

***"...Сэрца малітву пяе сьвятую Табе, Сусьвету любы Ўладар... Сьмела выходжу насустрэч зьдзеку, Цябе шукаю, Табе пяю, веру ў міласьць, веру ў апеку, у справядлівасьць веру Тваю"***, – споведна прамаўляла яна ў сваім вершы. У гэтым храме ўпершыню для гэтай канфесіі свецкай особе на сцене ўмацавана гранітная памятная пліта знакамітай прыхаджанцы з яе словамі: ***"На зямлі беларускай мае алтары"***. І вось – помнік з дабраслаўлення мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта.

Усе мы людзі – Божыя дзеці, незалежна цар ты ці просты грамадзянін – менавіта пад такім дэвізам у дзень адкрыцця прайшла па ёй паніхіда ў згаданай царкве. Яе правялі з дабраслаўлення епіскапа Арцемія сакратар Гарадзенскай кансісторыі айцец Анатоль, настаяцель Каложскай царквы г. Горадні айцец Аляксандр, настаяцель Траецкай царквы, айцец Аляксандр. Уражаныя гармоніяй спеваў, цеплынёй і задушэўнасцю выказаных слоў многія ўдзельнікі і прыхаджане выходзілі з царквы на асвячэнне помніка з слязамі на вачах.

Пасля асвячэння выказваліся словы ўдзячнасці Царкве, якая стаіць за веру, розум і за нацыянальную культуру. Дзякаваліся і ушаноўваліся тыя, хто прыхінуўся да ўсталявання помніка:

- Віталь Каляда – прывёз з Украіны шэры граніт;
- Аляксандр Семяняка – арганізаваў дастаўку каменя ў Зэльву;
- Бранíслаў Скрамблевіч – пад яго кіраўніцтвам яго брыгада апрацавала камень.

Выказвалася шкадаванне, што адсутнічалі скульптар помніка Міхась Іprintedькоў і Міхась Чарняўскі - ініцыятар і саўдзельнік праекту.

Камітэт ушанавання клуба "Спадчына" ўганараваў усіх удзельнікаў устаноўкі помніка адпаведнымі медалямі з занясеннем прозвішчаў у Кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь". Узнагароды ўручыў і сказаў словы ўдзячнасці старшыня клуба Анатоль Белы. Сказалі прапікнёныя слова: былы міністр замежных спраў Пятро Краўчанка, мастак Алесь Марачкін, доктар тэхнічных навук Аляксей Саламонаў, скульптар Алесь Шатэрнік, прадпрымальнікі з Горадні, якія дапамагалі выдавецтву кніг Ларысы Геніюш, Віктар Калацкі і Валянцін Дубатоўка. Былі слушныя прапановы. У прыватнасці, Алесь Шатэрнік бярэцца дапоўніць кампазіцыю помніка словамі: "Божа, барані Беларусь", Алесь Марачкін – напісаць карціну "Геніюш-пакутніца Беларусі" і змясціць тут, у храме. Прысутныя з Зэльвы і Слоніма паабяцалі стварыць супольнасць па догляду магілы і помніка.

Выступленні ўдзельнікаў з Баранавічаў, Горадні, Смаргоні, Менска і мясцовых жыхароў прадоўжыліся пад час трапезы ў рэстаране "Зэльвянка". Вячэра прайшла годна і сціпла, як і належыць падчас посту.

*Мікола Лавіцкі.*

## Адраджаецца Любчанскі замак



У Навагрудскім раёне палкоўнік запасу Іван Антонавіч Пячынскі выступіў ініцыятарам стварэння дабрачыннага фонду "Любчанскі замак", які мае мэтай сваёй дзейнасці рэстаўрацыю і вяртанне беларускаму народу гэтага ўнікальнага помніка беларускага абарончага дойлідства.

На сёння фонд "Любчанскі замак" зарэгістраваны ва ўстаноўленым парадку і на законных падставах пачаў працу па рэстаўрацыі замка. Першым крокам была рэстаўрацыя страхі на адной з вежаў, што спыніла яе разбурэнне. Ачышчана замчышча, паўсталі часовыя перакрыцці і рыштаванні...

*(Працяг тэмы на ст. 4.)*

## Белы сон

**(верш-песня)**

***Прысвячаю да Дня адкрыцця помніка Ларысе Геніюш у Зэльве***

*Белы сон.*
*Толькі неба здалёк...*
*Ларысы Геніюш, верш "Белы сон".*

Белы сон, белы мроявы сон –
Летуценны мой сон,
Успамінам блукай
Па закутачках вулачак вузкіх;
На дудзе наіграй,
Падцягні ва ўнісон,
Адары цеплынёй
Маю радасць, мой край беларускі...
Мілы край
Сінявокі мой край беларускі...

***Прыпеў:***
Сон белы-юначы, жадай нам удачы
І лепшае долі жадай.
Насупраць навалам –
Мы плечы расправім...!
Хай светлае прыйдзе ў наш край!
І сон стане явай
І гімну, па праву,
Мы скажам "Радзімы, гуляй!"
Пара – людам звацца,
Гаротнікі-братцы..!
Музыка, бадзёрай іграй..!
Хай дзеці смяюцца,
Хай песні снуюцца,
Хай гоман стаіць на ўвесь край..!

Белы сон, белы казачны сон –
Цудадзейны мой сон,
Вольным птахам гуляй,
Дзе пяюць-заліваюцца гуслі;
Ладу дзіўнага строй,
Бы дзявочай касой,
Апаўе дабрынёй
Маю радасць, мой край беларускі...
Мілы край
Светла-русы мой край – беларускі...

***Прыпеў.***

Белы сон, белы вешчы мой сон –
Прадказальны мой сон,
Казкай-дзівам вітай,
Ці русалкаю вольнаю русай;
А гаючы настой, чараўніцы лясной,
Хай бадзёрыць мой край,
Маю радасць, мой край беларускі...
Мілы край,
Зачараваны край – беларускі...

***Прыпеў.***

*28 лістапада 2003 года.*

***Цімафейчык Іван Міхайлавіч, вёска Мадзейкі Зэльвенскага раёна, Гарадзенскай вобласці.***

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 4. ЕФРАСІННЯ
(паэма)

#### Камяні

А за спіною – зірні-
І для наступнікаў далі.
Вечныя там камяні
Час між пяскоў пакідае.

Як верставыя слупы,
Злучаны людзі Дарогай.
З ёй не рассыплемся ў пыл,
Не занядужым убога.

Вечная, толькі адна
Ззаду ў нас абарона.
Першапраходцаў яна
Ведала добра імёны.

Каб не адбыцца бядзе,
Песціла нашы крыніцы.
Для невідушчых людзей
Тут няма справы – забыцца.

Але гучнелі сляды.
Пераклікаліся хвалі.
Лепшыя пёры тады
Ніву бацькоў апявалі.

Дужалі іх галасы,
За учарашніх – маленні.
Нестар тутэйшы прасіў
Шчырага дабраслаўлення.

Тут вось натхнёна карпеў
Пальцаў над аркушам одум.
Гэта ён, Полацк, табе
З Леты збіраў год за годам.

Храма пачулі званы.
Як узышла на дасвецці
Лепшая песня зямлі
Аб прыгажуні-Рагнедзе.

І за радком быў радок –
Першыя крокі са змроку.
Першая вестка здалёк,
Гук дарагі аб вытоку.

Гордае слова – запеў.
Хто яго пэўна разважа?
Дзе загубілі цябе,
О, запаветнае наша?

Ды не суцішыў ніхто
Мроі з памежжасці ўпартай.
Дзева Святая, нашто
Гэтак далёка да заўтра?

Дзе ён, нязведаны шлях?
О, гэты прывід зняверцы –
Лом у нашчадка ў руках
На камяні замахнецца.

#### Дурніца

Не чувалі, пэўна, кліч святла,
Не ўспрымала побач хваля зла.
Людзі забываліся пра Бога –
Княскай варажнечы кроў цякла.

І тады, у даўнія вякі
Шкодзілі вар'яты-дзівакі.
Гэтыя не бачылі дурніцы
І яе працягнутай рукі.

Сходзілася ў звадках
 столькі моў...
Ды чакала добрых вестак зноў.
Вельмі шчыра
 кожны раз прымала
Галасы настойлівых званоў.

І праз вёрсты рушылі сляды...
Так пісала: "Мілыя браты!..."
Дзесьці перачытвалі падоўгу
Тыя ўсхваляваныя лісты.

З гневам пагаджаліся: з пяра
Не жадае свет сабе дабра.
І здалёк бунтоўніцу натхнялі:
"Памажы Гасподзь табе, сястра."

Колькіх жа, працягваючы рух,
Абагрэў прамень, пакуль патух.
Запаветным іменем, як сцягам,
Палачанаў узнімала дух.

Вызваляла з нораваў гразі.
І сціхалі сквапныя князі.
Голасам яе самаадданым
Крывія гучала на Русі.

Раніў лёсы часу востры жвір.
За парадай, каб суцішыць вір,
Полацкі ўладар і людзі веча
Крочылі пад слынны манастыр.

#### Палястына

У такой стамілася сяўбе...
Калі зрок прыкметна паслабеў,
Прах Гасподні ўвечары паклікаў
Праведніцу проста да сябе,

Каб знайшла прытулак і спакой...
І аднойчы рушыла вясной.
У бясконцай мотальнай дарозе
Шлях былы прыгадвала свой.

Ён кранаўся яснага чала...
Не страшыла блізкая імгла.
Ад тугі лячылася надзеяй,
Што нядрэнна, пэўна, пражыла.

Не ў недарэчным забыцці.
Бо з Хрыстом звяралася ў жыцці.
Колькім паказала, як, нарэшце,
Да яго, адзінага, дайсці.

І вядома ж, без гадоў брыды
Засталіся за спіной куты.
Азаралі твары сярод цемры
Кніг яе гарачыя лісты.

За несправядлівасці чуму
На сябе ўзяла яна віну.
Безліч жабракоў,
 калек паўсюдна
На яе маліліся адну.

Адляцеў кавалачак святла
Ад яе апошняга жытла.
Так яшчэ адна душа святая
Ў неба Палястыны адышла.

А на Русь, як злосная пурга,
Рушыла жалобная туга.
Горка слёзы ліў далёкі Полацк –
Ён яе і мёртвую чакаў.

Ды яшчэ за тую вунь скалу
Плыць і плыць
 стагоддзі караблю.
Вельмі цяжка
 Бацькаўшчыны дзецi
На сваю вярталіся зямлю.

Але скуль мінулага званы
Ў холад апранаюцца нямы?
Ні хвіліны не дае спакою
Векапомны позірк са сцяны.

Ён заўсёды, як апошні раз,
Гэтак запынішыся на час,
У душу глядзіць адтуль, здалёку,
І маўчыць, і моліцца за нас...

### 5. ЗАЛАТАВУСТ
(Кірыла Тураўскі)



Як святлелі, яснелі
Абшары кругом
Над ранняй расой...
А была яна, пэўна.
Знарок для яго,
Слова Боскага соль,
Быццам ладзіла
Цёплы бясконцы май,
Супакойвала шум.
Узнімала высока
Ў блакітны край
Лёгкай птушкай душу.
Утаймоўвала
Светлай надзеяй Хрыста
Хвалі смут.
Набліжала да чыстых
Вышынь хараства
Яснай мараю люд.
Як прыгожая песня,
Лілося яно,
Слова зорак і гор.
З ім навечна, здавалася,
Быў заадно
І тутэйшы прастор.
Узыходзіў, лунаў
Дух яго камяніц
Над паганым былым.
Цэлы свет каля светлых
Вытокаў крыніц
Станавіўся другім.
Азарала,
Нібыта праменнем, чало.
Толькі Словам і жыў.
Бо ўсё яно
Крэўным ягоным было.
Да апошняй мяжы.
Юнаком ужо марыў
Аб вечнай сяўбе
Між сутычак і звад –
Боскай праўды прыцягваў,
Зваў да сябе
Мудры велічны лад.
Пранізаў нават
Гук аб бяссмерці
Да самых касцей.
Быў Хрыстос для яго
Прыгажэйшай на свеце
Паэмай людзей.
І як вечны прагнуў
Працяг
Вось такіх галасоў.
Жыў паэт у ім,
Захоплены небам мастак
З самых ранніх часоў.
Бунтавалі,
З халодным спрачаліся змрокам
Іскры вачніц,
Ён не здолеў быць адзінокім,
Пустэльнікам быць.
Не над свечкай
Самотную поўнач
Малітваў-надзей,
А жадаў бачыць побач
Гарачыя твары хутчэй.
Каб з пакутнымі і змарнелымі
Зліцца ў агонь.
Каб іх вочы
Насупраць знямелыя
Паглынулі яго.
Так усё і збылося
Па мроі-абраду:
Загадваў лёс.
Запалілі павестра
Моц і ўлада
Гукаў нябёс.
Паланяў назаўжды зноў і зноў
Усіх чулых, жывых.
Добра ведаў
Запал вешчуноў-
Красамоўцаў лясных.
Не бываў перад горам
Нікому чужы.
Любы бацька сям'і,
Ён прытулак даваў
Кожнай гнанай душы
На згаленай зямлі.
Голас гневу няўтольнага,
Смелы заступнік рабоў,
Бараніў
Свой народ паднявольны
Ад ворагаў-валадароў.
Ён ад шэрых
Братоў-небарак
Адганяў крумкачоў.
І расчулена
Слёзы цяклі па шчаках
Слухачоў.

* * *

Божай сіле не знаходзіў роўнай
Непатольны, нецярплівы зрок.
Вечны Храм
 у думцы сваёй зорнай
Адшукаў настойлівы прарок.

Расказаць – ужо было замахам.
А ўзор для вуснаў, хіба, меў
Толькі ў раслін п'янлівым паху
Ды ў сакавітых фарбах дрэў.

І перад дарогай незнаёмай,
Поўны ўспамінамі з былой,
Спадзяваўся на блакіт азёрны,
На сасновы шолах над імгой.

Ён спяваў усім – з такім запалам
Пачынаюць першую раллю.
Веснавое сонца ажыўляла,
Абуджала сонную зямлю.

Наступаў заранак вызвалення,
Сокаў маладых імклівы бег.
Парасткі ўзыходзілі з насення,
Верыў, быццам новы чалавек.

І душа свабодная раздольна
Паглынала росаў чысціню.
Перад ёй рассоўваліся вольна
Сцэнкі храма ўдалечыню.

І прыносіў голас неспакойны
Шляху жыццярадасны пачын.
А малітвы, сценкі ды іконы
Тут былі наогул ні пры чым.

Ратавала ад спакусы цела,
У чэрца з неба цэліўшы, страла.
Ды паганец зноў закаранелы
І ў святочным слове паўставаў.

Ланцугі нанізваў самацветаў,
Гукамі яскравымі блішчэў.
Гаварыў – заслухваліся следам.
І яшчэ хацелася, яшчэ...

Слухалі стагоддзі, брат ад брата.
Ведалі паны і басата.
Думаў і пра будучых упарта,
Калі словы
 з прыпавесцямі складаў.

Да яго зямля была сляпая.
Сонца апярэджваў прарок,
Нашага пісьменністага краю
Першае славутае пяро.

Праз вякі ўзварушыцца
 Сматрыцкі,
Сімяон паўстане. Усё адно –
Пачынала ў Тураве калісьці
Пеніцца хмяльное іх віно.

Ёсць свае адмеціны для часу,
Скрыжаванні-курганы дарог.
Векапомным Словам пачынаўся,
Узыходзіў на Радзіме Бог.

### 6. СВЕЧКА ЗЯМЛІ

І самі ногі прывялі –
Належна скончылася вуліца.
Нібыта свечка ад зямлі
У бок блакіту працягнулася.

Як напамінак аб Айцы,
Уся упарта-серабрыстая,
Свяціла і напрыканцы
Жыцця адной надзеяй чыстаю.

Нідзе, ніколі дзівакі
Не будуць беспрасветна бедныя–
Зацвердзіла ўжо навякі,
Пакуль шукала запаветнае.

Інача́й – што ён, Божы дар?
На скрозь жа – тлен,
 гібенне шэрае.
У ясны векапомны твар,
У вочы мудрыя паверыла.

І запаліла не агнём –
Адной хваробай
 той спрадвечнаю.
Так пасвяціць хацела – "Ён!" –
Хаця б на аднаго сустрэчнага.

Не ўсемагутны чорта лес –
Былі і ёсць Зямлі найлепшыя.
Ды толькі мары-мроі спрэс
Адны прыгожыя і цешылі.

Яны, як дужыя князі,
Патрабавалі сабе вернасці.
І зноў блукальнікаў з гразі
Падняць ёй і злучыць хацелася.

Каб тыя, што ўразнабой
Ішлі асобнымі сцяжынамі,
У кожнай клетачцы сваёй
Адчулі кроў адну-адзіную.

І каб адно, як бусляня,
Ўзляцела сэрца ўвысь лагоднае.
І пралілася цеплыня,
Да болю светлая і родная.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Падчас свайго пяцігадовага існавання ў Палястыне кадэцкая школа размяшчалася коратка ў Башыце. З Башыта яе перавялі да лагера пад назовам Касціна. А з Касціны перавялі (верасень 1943 г.) да лагера Барбара, блізка Газы. Тут восенню 1942 года мяне і прынялі да першага класа гімназіі гуманістычнага тыпу. Варта тут зазначыць, што на польскіх гімнастычных атэстатах няма рубрыкі на нацыянальнасць. А на маім атэстаце з першага гімназіяльнага класа дапісалі: "nar. bialoruska", г. зн. "нацыянальнасць беларуская". Штосьць падобнае дапісалі і для майго сябры Расціслава Глуўкі (украінец). Палякам гэтага не дапісвалі.

Дык чаму гэта рабілі для мяне і майго сябра? Інакш, як дыскрымінацыяй гэтага не назавеш.

У 1945 годзе я паступіў да гуманістычнага ліцэя ў той-жа кадэцкай школе. Пасля двухгадовай навукі паспяхова закончыў ліцэй у 1947 годзе. Па-польску "duza matura" ("вялікая матура"), г. зн., атэстата сталасці. Атрымаўшы атэстат я меў права паступаць у ВНУ.



ŚWIADECTWO DOJRZAŁOŚCI

(Imię i nazwisko)

urodzon... dnia ... miesiąca ... roku 19... w ...

M. P.

województwa ...

wyznania ...

po ukończeniu nauki w ...

do któr... był... przyjęt... w 19... roku

zdawał w terminie ... 19... roku

zwyczajny egzamin dojrzałości typu ...

wobec Komisji Egzaminacyjnej, powołanej przez ...

L. Dz. ... 19... r. i otrzymał... następujące

oceny ostateczne z przedmiotów egzaminacyjnych:

z religii ...

z języka polskiego ...

z języka łacińskiego ...

z języka ...

z historii wraz z zagadnieniami życia współczesnego ...

z matematyki ...

z fizyki wraz z chemią ...

Poza tym uzyskał... na egzaminie dojrzałości, względnie jako ostatnie oceny roczne w klasach I-II (lub odpowiednie oceny na egzaminie wstępnym do wymienionego liceum) z przedmiotów następujących:

z biologii ...

z propedeutyki filozofii ...

z ...

z ...

z ...

z ...

Komisja Egzaminacyjna uznała ...

za dojrzał... do studiów wyższych i wydaje ... niniejsze świadectwo.

... dnia ... 19... roku

Wizytator mjr.

M. p.

PRZEWODNICZĄCY KOMISJI EGZAMINACYJNEJ

CZŁONKOWIE KOMISJI EGZAMINACYJNEJ

*Атэстат сталасці Міхаіла Швэдзюка*

## ЭКСКУРСІІ

Палястына, Егіпет, Лебанон (Ліван) ёсць вельмі цікавымі гістарычнымі месцамі якія сцягваюць тысячы турыстаў і паломнікаў. Так як мы жылі ў Палястыне пяць гадоў, мы тако ж адведалі многа месцаў у Палястыне, звязаных з хрысціянствам, мусульманствам і юдаізмам. А там, запраўды, ёсць што аглядаць, што адведываць.



**Міхаіл Швэдзюк. Палястына. Лета 1945 г.**

Школа часта арганізоўвала розныя падарожжы да святых месцаў. Гідамі былі пераважна выкладчыкі з гімназіі і ліцэя, але часта даводзілася браць і мясцовых гідаў, якія былі больш абазнаныя з гісторыяй месцаў, якія мы аглядалі і адведвалі.

Коратка ўспомню тут важнейшыя месцы, да якіх мы ездзілі і якія аглядалі, як поломнікі і турысты: у Ерусаліме труну Гасподнюю, Галгофу, Вячэрнік, Крыжовую Дарогу (Via Dolorosa), сцяну плакання (там была калісь сінагога, і каля яе сцяны гэбраі моляцца і плачуць), Гефсіманію, Аліўную Гару і д. п.

**Ездзілі тако ж да Віфліема, Гэброну, Назарэту, Яфы, Гаіфы, Тэль-Авіва, Капернаума над Табэр'ядскім возерам, да ракі Іярдан, Ерыхон. Ездзілі тако ж да Мёртвага Возера, дзе вада так насычана соллю, што па вадзе можна хадзіць. Былі мы яшчэ і ў іншых месцах звязаных з хрысціянствам.**

Па прыездзе да Палястыны ў 1942 годзе ў лагеры Башыт аказалася



**Міхаіл Швэдзюк у кадэцкай школе. Палястына. Травень 1946 г.**

многа беларускіх хлопцаў праваслаўнай веры. Пачаў прыязджаць да нас праваслаўны святар (капелан) Іван Савіч, які быў у польскім войску. Сам айцец Іван быў беларусам, родам з Лунінеччыны на Палессі і да Палястыны прыехаў цераз Балканы.

Айцец Іван зарганізаваў экскурсію – паломніцтва для праваслаўных хлопцаў да Ерусаліма. А нас тады было многа. Тады хлопцы прызнаваліся да беларускасці ці украінскасці і да праваслаўнай веры.

Па дарозе да Ерусаліма аўтобусам мы ўсе гутарылі на розныя тэмы. Я пачуў нараканні, што польскія хлопцы-юнакі аднасяцца непрыхільна, з насмешкай да праваслаўных. Я слухаў, але голасу не забіраў. Аднак, наслухаўшыся нараканні нашых хлопцаў я зрабіў свой вывад і сваю асабістую пастанову. А іхнія скаргі–нараканні не былі для мяне неспадзяванкай, памятаючы эпізод на савецкім караблі "Масква", аб чым я ўжо пісаў.

Айцец Іван быў нашым гідам і вадзіў нас па найсвяцейшых месцах ў Ерусаліме. Расказваў, тлумачыў нам, з чым гэтыя месцы былі павязаны ў жыцці Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Айцец Іван завёў нас тако ж да рускага праваслаўнага сабора ў цэнтры Ерусаліма. Адведалі мы тако ж вельмі прыгожую рускую праваслаўную царкву памяці святой Марыі Магдалены ў Гефсіманіі. Царква ляжыць у маляўнічым месцы, на гары, адкуль відна цудоўная панарама старога горада Ерусаліма з яго абаронным мурамі, цэрквамі, касцёламі і мячэцямі.

У красавіку 1947 года мы паехалі на васьмідзённую экскурсію да Егіпта. Затрымаліся ў Каіры, дзе адведалі мячэць Магамеда Алі і Эль-Азгар, магілы Мамелюкаў, народны музей з старажытнымі экспанатамі. У Каіры спаткалі татарына з Польшчы, які быў там на студыях.



**Свята Хрышчэння на рацэ Іярдан у Палястыне. 19.01.1945 год. Ваду асвячаюць айцец Усевалад Яськоў і архімандрыт Серафім.**



**Гефсіманія. Палястына. 07.01.1946 год. Каляды. У першым радзе з левага боку капітан П. Базылеўскі, а астатні айцец Іван Савіч. Паміж манахінямі Міхаіл Швэдзюк.**

*(Працяг у наст. нумары.)*

# СУКВЕЦЦЕ СВЯТ І АБРАДАЎ

## 10 ГОД ФЕСТЫВАЛЮ НАЦЫЯНАЛЬНЫ СВЯТ І АБРАДАЎ У ГАРОДНІ

Пачатак перадкаляднага шасцітыднёвага посту Піліпаўкі 29 лістапада ў нашай сталіцы нацыянальных культураў Горадні вось ужо дзесяць год (лічба шматзначная!!!) асвячаецца прыгожай, у гэтым годзе васьмігадзіннай, святочнай дзеяй – фестывалем свят і абрадаў беларусаў, палякаў, украінцаў, яўрэяў, татар і іншых народаў, якія самабытнасцю сваіх святочных традыцый ўпрыгожваюць сваё паўсядзённае жыццё. Дарэчы, як і нашы беларускія аб'яднанні, для якіх нядаўна ладзіла семінар Беларускае таварыства сувязяў з суайчыннікамі за мяжой "Радзіма". Для нашых родных ва ўсім свеце тое, што мы глядзелі ў Горадні, ёсць жывой вадой радзімы, глытком яе чыстага паветра, святочнай крыніцай маральнай чысціні і фізічнага здароўя. Аб гэтым аўтару казалі беларусы з-пад Смаленска, якія на другім фестывалі ў 1995 годзе паказалі валачобны абрад на Вялікдзень. Мару і веру, што на фестывалях наступнага дзесяцігоддзя будзе многа прадстаўнікоў замежных суполак. Бо для іх гарадзенская святочная дзея будзе школай, узорам нацыянальнага існавання, жыцця далёка ад радзімы.

Юбілейны фестываль, як і трэба было чакаць, быў прыгожым чынам арганізаваны – на ім было прадстаўлена 26 лепшых з лепшых інсцэніровак свят і абрадаў за ўсе дзесяць прайшоўшых год. Гэта была сапраўдная святочная феерыя, бо нават, для прыкладу, узоры ідэнтычных свят і абрадаў: "Ваджэнне куста" – 78 дзіцячага садка і школы для дзяцей са слабым зрокам, "Выгнанне русалкі" – СШ № 21 і аб'яднання палякаў "Лехіці"; "Багач" – школы-інтэрната для дзяцей са слабым зрокам і СШ № 2; "Купалле" – вядомага калектыву "Росніца" і гурта "Прадвесне"; "Каляд" – знанага "Нёмана", дзіцячай "Гараднічанкі" і СШ № 12 – у кожным выпадку былі непаўторнымі.

Поўнасцю прааналізаваць тое, што тварылася ў высокім сэнсе гэтага слова ў той дзень на сцэне у гарадскім доме культуры Горадні, немагчыма. Таму назавём у першую чаргу восем лепшых, якія вызначаны кампетэнтным журы, сцэнічных увасабленняў свят і абрадаў. Асноўнымі двума крытэрыямі пры гэтым апраўдана былі – аўтэнтычная наблiжанасць свята да народнага і мастацкі ўзровень спеваў, музыкі. Танцаў і карагодаў (апошніх двух на гэты раз было як ніколі багата, што вельмі радуе):

**"Жаніцьба коміна"** СШ №28 – кіраўнік Майя Марозік;

**"Купальскі вяночак"** Беларускага таварыства інвалідаў па зроку – кіраўнік Мікалай Ляўша;

**"Хаўтуры"** Ліцэя № 1 – кіраўнік Сяргей Фінскі;

**"Рэкруцкі набор"** музычнай навучальні – кіраўнік Мікалай Бянько;

**"Ваджэнне куста"** дз/с №78 – кіраўнік Таццяна Слезіна;

**"Батлейка"** СШ № 29 – кіраўнік Алёна Дзямешчык;

**"Стрэчанне-Грамніцы"** СШ " 35 – кіраўнік Тарэса Гудыма;

**"Выгнанне русалкі"** СШ № 21 – кіраўнік Кацярына Дзятлаўская.

З абрадаў нацыянальных суполак прыгожа выглядалі **"Баоскі цомбер"** СШ № 36 з польская мовай навучання, блізкі да беларускай "Цягаць калодку" на Масленку, **"Салахмонес-падарунак"** яўрэяў, **"Святочныя песні"** украінскага "Барвінка" і **"Восеньскія пасядзелкі"** татар.

Прыгожа аздаблялі святочныя дзеі музыка-канструктар музычных інструментаў Мар'ян Скраблевіч (яму даўно пара стварыць персанальную школу музычных інструментаў), непаўторныя выканаўцы аўтэнтычных народных песень Марыя Саковіч, Марыя Лацо, Сяргей Міхасёў. А вялі гэты святочны рэй, гарэзліва прадстаўлялі святы і абрады Наталля Конан і Сяржук Мельнічэнка.

Дзесяты фэст стаў святочнай магіяй маладосці і прыгажосці, ў першую чаргу мастацкіх фальклорных калектываў сярэдніх школ Горадні. З году ў год усё лепш і лепш яны пазнавалі святочныя рытуалы, беражна пераносілі іх на сцэну, вучыліся спяваць самабытныя абрадавыя песні, што найбольш складана, асабліва, калі гэта вузка рэгіянальная з'ява. Напрыклад, заходнегомельскі абрад "Жаніцьба коміна" фальклорын тэатр СШ № 21 рэканструяваў, беражна ўзнаваіў у самых дробных прыгожых рытуалах. Дарэчы, такая праца над святочнымі інсцэніроўкамі стала асновай таго, што большасць фальклорных, першапачаткова спеўных, інструментальных, харэаграфічных калектываў ператварыліся ў сапраўдныя фальклорныя тэатры, дзе спевы, музыка і танцы складаюць непадзельнае цэлае, а таму робяць на слухачоў глыбокае мастацкае ўражанне.

Выкарыстанне навейшых тэхнічных музычных і колеравых сродкаў выразнасці прычынілася да таго, што на X ФНСА ў Горадні з'явілася сучасная фальклорная мастацкая форма, якую ва ўсім свеце называюць па замежнаму ўзору мюзікламі. Колькі год назад была ўдалая спроба "Рок-н-рола на саломе" прафесійнага рэжысёра Генадзя Давыдзіка. Нядаўна абнародавана, што беларус Галаўко напісаў музыку да знакамітых брадвейскіх спектакляў. На фэсце ў Горадні на такім высокім мастацкім узроўні выглядалі "Выгнанне русалкі" у інтэрпрэтацыі Кацярыны Дзятлаўскай, якое вырашана з перавагай рытуалаў музыкальна-філасофскага гучання. Можа гэта пачатак развіцця будучай традыцыі фальклорных мюзіклаў на аснове ўнікальнай па захаванасці старажытных міфалагічных уяўленняў, якія даюць нястрыманы прастор для мастацкай фантазіі, выдумкі, творчасці.

На працягу дзевяці гадоў ФНСА у Горадні трымаўся на ўлюлёнасці ў народную культуру энтузіястаў-кіраўнікоў культуры Ірыны Кліменкі і Сяргея Саваня. У гэтым годзе яны з рук ў рукі перадалі гэтую прыгожую ініцыятыву такім жа адданым фальклорнай традыцыі Ірыне Міклашэвіч і Любові Ляшкевіч. Не засталося ў баку ад свята і кіраўніцтва горад – фестываль адкрыў шчырым словам намеснік старшыні гарвыканкаму Валянцін Лявонаў.

Карыстаючыся добрай нагодай, як нязменны старшыня журы ўжо дзесяцігадовага перадкаляднага святочнага Фестывалю нацыянальных свят і абрадаў ў Горадні я здаклікаю гарадскія ўлады і абыякавае пакуль да гэтай незвычайнай з'явы Міністэрства культуры Беларусі зрабіць ФНСА міжнародным, маючы на ўвазе ў першую чаргу суполкі і фальклорныя калектывы, нашых суродзічаў за мяжой, як, напрыклад, знаны "Васілёк" у Нью-Ёрку.

Увесь свет захапляецца нацыянальнымі святамі, абрадамі, карнаваламі. Яны прыцягваюць увагу да краіны міжнароднай грамадскасці, шматлікіх турыстаў, даследчыкаў культуры славянскіх народаў, дзеячоў мастацтва, менеджараў культуры, прадпрымальнікаў і бізнесменаў. Мы ж пакуль развіваем на Беларусі замест культурнага турызму – "чаўночны", які вывозіць рэсурсы за мяжу. У той жа час нашы суродзічы за мяжой, у вялікай колькасці раскіданыя па свеце, асабліва многа ў Расіі і ва ўсіх краінах СНД, Прыбалтыцы, Польшчы, Еўропе, ЗША, Канадзе і Аўстраліі, душой імкнуцца на радзіму. Такія калектывы, як удзельнік X ФНСА фальклорны калектыў "Крывічы" са смаленскай вёскі на чале з Яўгеняй Шаганковай, могуць быць з дзесяткаў іншых краін. А як гэта ўзвысіць аўтарытэт нашай дзяржавы сярод міжнароднай супольнасці!!!

Фестываль нацыянальных свят і абрадаў у Горадні пры падтрымцы афіцыйных улад можа стаць бальзамам для душ нашых суродзічаў, што сумуюць па Радзіме, самабытнай кветкай Беларусі, якая прыцягне ўвагу замежных гасцей, беларускіх эмігрантаў-яўрэяў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. А пакуль з велізарным поспехам на ўсіх фальклорных фестывалях Польшчы прымаюць фальклорны тэатр "Матуліна песня" над кіраўніцтвам Тарэсы Адамовіч з вёскі Жытомля Гарадзенскага раёна.

Упамянутая нядаўняя сустрэча з суродзічамі са шматлікіх краін замежжа пераканала, што ва ўсім свеце людзі хочуць пачуць, як у свой час з вуснаў "Песняроў" у Амерыцы, шчырую лірычную беларускую народную песню, пагаядзець аўтэнтычныя беларускія святы Вялікдзень, Купалле, Дажынкі, Жаніцьбу Коміна і Цярэшкі, Багач, Зміраўскія Дзяды, Каляды, Шчодрык і шматлікія іншыя, якія штогод паказваюцца на ФНСА, танцы, скокі, карагоды, гульні, спевы і музыку беларусаў, рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў і татар з Беларусі.

*Старшыня журы ФНСА*
*Васіль Ліцьвінка.*

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*




**По гарызанталях:** 1. Брею. 3.Взрыв. 5.Охват. 7.Подразделение. 10.Строение (каменнае, цаглянае). 11.Явь. 12.Стеклярус. 14.Богатырь. 15.Почти, чуть. 17. Палач. 19.Женщины. 20.Отлёт. 21.Жир. 23.Строгое взыскание. 24.Гвоздь. 25. Редеть. 28.Крюк (на бусаку). 29.Чёт. 31.Отличительность. 34.Початок кукурузы. 35.Лыжник. 36. Дикий кабан.

**По вертыкалях:** 1.Издавательство, насмешка. 2.Кровь. 3.Приговор. 4.Хожу. 5.Но (злучнік). 6.Кнут. 7.Красавица (памяншальнае). 8.Явление. 9.Голосннь (па кім-н.). 12.Знамя. 13. Становиться солидным. 14.Мурава. 16.Никак. 17. Замазка (ваконная). 18. Да (часціца). 22. Почин, начинание. 26. Мелкие отходы с колосьев. 27. Цезарь. 28.Посудина глиняная с узким горлом. 30. Штукатурка. 32. Крыша. 33.Чудо.

*(Адказы можна праверыць на ст. 5.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 12. 2003 г. Замова № 2782.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 3100 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
*Кошт у розніцу:* 240 руб. (у Менску - 250 руб.)